


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 31 (1118) ГОД XXII БЕЛАСТОК 31 ЛІПЕНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# БЕЛАЯ

Хоць гэтая мясціна, што знаходзіцца ў трох-чатырох кіламетрах на ўсход ад Бельска Падляшскага на правым беразе рэчкі Белай, не прыцягвае ўвагі сваёй велічынёй, але варта ў ёй затрымацца, каб уважней прасачыць тыя сляды, што пакінулі тут нашыя продкі і на зямлі і ў вуснай традыцыі.

Пачаткі гэтага паселішча трэба шукаць недзе ў тых часах, калі паміж старажытнымі гарадамі-крэпасцямі Гроднам і Бельскам усталяваўся трывалы гасцінец. Наогул уся рэчка Белая ў мінулым мела надта балоцістыя берагі, але ў гэтай ваколіцы яны былі найбольш сухія і даступныя для пераправы. Ці то нейкае прыстанішча для падарожных каля пераправы, ці то нават умацаваная яе старожа з мытняю да збору аплаты за праезд па мосце і далі пачатак паселішчу. Займела яно



*Сястра і брат Надзея і Іван Наумчук з Белай шмат што прыгадалі аўтару артыкула з даўнішняга жыцця ў родным сяле.*



*Будынкі ў Белай патанаюць у гушчэчы прысадаў.*

назву Белая ад ракі, над якою стаяла, падобна як вёска Арлянка ад рэчкі Арлянкі, мястэчкі Нарва ад ракі Нарвы. Нараўка ад рэчкі Нараўкі і г.д. Але калі гэтыя два апошнія разрасліся ў вялікія паселішчы, дык Белая і Арлянка з-за непасрэднага суседства Бельска асталіся ўсяго толькі невялічкімі вёсачкамі. Таму на раскінутым непадалёк ад вёскі пагорку Могільнік лапата археолага можа адкрыць не толькі астанкі памёршых ад пошасцей і эпідэмій бялян у мінулым стагоддзі, але і доказы намнога ранейшага побыту тут чалавека. Тым больш, што адзін з палеткаў носіць назву **Лісоха** (у сучаснай лістоўскай мове „lyse“, „lysve“ — градка, пагорачак, узвышша), а гэта паказвае на прысутнасць тут балтыйскага насельніцтва яшчэ да прыходу сюды ўсходніх славян, якія назвалі па-свойму навакольныя пагоркі, лугі, палеткі: **Болото, Клінок, Міжызгоркі, Смуга, Сплавы, Шыя** і інш.

Цікава, што часы, калі вясковых хлопцаў бралі на 25-гадовую вайсковую службу, вяжуцца тут з урочышчам **Озэро.** У тыя часы гэта была топельная дрыгва, паросшая дзе-нідзе кустамі лазы ды чэзлага бярэзніку. Іменна там хаваліся сялянскія дзецюкі, калі ішоў набор у рэкруты. Белая была паншчыннай вёскай і належала да маёнтку ў Грыневічах, непадалёк ад яе, на левым беразе рэчкі, знаходзіўся бровар, след па якім астаўся ў назве палетка **Броварыско.** Уніз па рэчцы быў фальварк **Стояхново** з рыбнымі сажалкамі і, праўдападобна, вадзяным млыном — таксама ўласнасць уладальнікаў Грыневічаў.

Памяць пра падзеі Студзеньскага паўстання 1863 года захавалася тут у анекдоце пра тое, як ад надыходзячага паўстанчаскага атрада ў валаснае сяло Пасынкі тамашні царскі стараста схаваўся ў комін. Паўстанцы ж выцягнулі адтуль урадніка-злачынцу і вынеслі належнае яму, справядлівае пакаранне.

Падставай існавання тутэйшых жыхароў заўсёды была сельская гаспадарка. Як можна меркаваць па ўспамінах старэйшых людзей, калісьці тут вельмі багатая была сельскагаспадарчая абрадавасць. Між іншым, на свята Тройцы рвалі на рэчцы лісце бабку і сыпалі яго па падлозе ў хаце, а таксама па панадворку. Ламалі зялёныя галінкі вязу і затыкалі іх за аканіцы, пры гэтым меркавалі, што калі лісце хутка сохне, тады будзе пагода на сенакос, калі ж доўга астаецца сырое — сенакос мокры. Яшчэ на пачатку нашага стагоддзя перад Янам дзеці хадзілі гурбамі ў поле за кветкамі. Рвалі „хабэрок“, „козэлец“, „боркун“ і плялі з іх вянкі. Дзяцей страшылі, што ў жыце прабываюць русалкі, якія надта не лю-

(Працяг на стар. 5)

# ДЗЕ ПАНУЮЦЬ ЖАНЧЫНЫ

Некалькі год таму назад у Дабравадзе каля Кляшчэляў актыўна дзейнічаў драматычны гурток, які, між іншым, паставіў на сцэне фальклорна-гістарычную п'есу „Машэка“ Е. Міровіча. Але многія з тадышніх самадзейных акцёраў пакончалі сярэднія школы, раз'ехаліся, гурток спыніў сваю дзейнасць. Аднак агеньчык культурнай дзейнасці не згас. Мінулай зімою ў дабрыводскім гуртку вясковых гаспадыняў паўстаў невялікі хор. Выступіў ён у конкурсе „Беларуская песня - 77“ і ў беластоцкай Дэкадзе культуры вёскі. Мясцовыя фальклорныя песні ў выкананні народных спявачак гучаць асабліва прываблiва, здабываюць сэрцы слухачоў сваёй арыгінальнасцю, аўтэнтызмам. Захвочаныя поспехам дабраводскія жанкі маюць намер павялічыць свой калектыў і плануюць заняцца пастаноўкай сцэнкі з народнага абраду. Гэтыя намеры дастойны пахвалы і падтрымкі, а тое, што калектывам заняліся інструктар ГП БГКТ Я. Крупа, працаўніца кляшчэлеўскага СКР-у Л. Сасноўская і дырэктар ГОК-у ў Кляшчэлях Р. Місеюк, абяцае цікавыя вынікі ў працы спявачак. Глянем жа, хто яны?

Душа калектыву, як і ўсяго 44-асабовага дабраводскага КГВ, — гэта Варвара Ліпінская. Добрая гаспадыня і актыўны дзеяч. Яшчэ ў пачатку 50-х гадоў, бышы членам ЗМП, рэзала з іншымі бярвенні на святліцу ў вёсцы, бяліла і мыла, вельмі хацела, каб моладзь мела свой куток для культурна-асветнай дзейнасці. І свайго дабілася. Цяпер жа, калі дзеці ўжо падраслі, занялася гуртком вясковых гаспадыняў. Яна — ініцыятар многіх пачынаў тутэйшых жанчын. Перш за ўсё тутэйшыя гаспадыні рашылі павялічыць гадоўлю свіней і быдла. Арганізаваным парадкам былі закуплены маладыя свінаматкі і цыляты, хочуць арганізаваць супольную гадоўлю куранят. Многія гады праводзіліся тут таксама розныя курсы: пячэння, нарыхтоўкі салатаў, страваў з рыбы, мясных вырабаў і інш., цяпер хочуць арганізаваць курс аб малочных вырабах. Летам у Дабравадзе працаваў дзяцінец. Праўда, усе

(Працяг на стар. 2)



*Ініцыятарам усіх пачынаў дабраводскіх жанчын з'яўляецца старшыня мясцовага КГВ Варвара Ліпінская.*

ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА




Найперш паявілася стонка чатырохножная. Яшчэ не паспела бульба зацвісці, а ўжо абселі яе гэтыя праклятыя каларадскія жукі.

Першая спахапілася мая паважаная Палашка. „Ідзі, — кажа яна, — стонку труціць, а то чарвякоў нам столькі наразводзіць, што адны бадылі застануцца і на зіму бульбу прыдзецца купляць. Я табе ўжо панчоху нарыхтавала“.

Што ж было мне рабіць? Узяў я ў рукі гэтую панчоху і пачаў карміць атрутай маіх каларадскіх жукоў.

Пад вечар штосьці ў мяне ў вачах пацямнела, разбалелася галава, стала млосна, а ноччу і на ваніты сабралася.

Перапалохалася мая бедная Палашка і хацела ўжо да солтыса да тэлефону бегчы, каб хуткую дапамогу выклікаць. Я яе спыніў і загадаў, каб кіслага малака пастаралася.

— А дзе ж я вазьму гэтага кіслага малака? — загаласіла яна, бразгаючы гладышкамі і конаўкамі. — То ж усё малако раненька ты сам даставіў у злеўню, а вячэрняе не паспела яшчэ скіснуць.

Прышлося тады паласкаць мне страўнік свежым малаком, але і яно крыху памагло.

Неяк прамучыўся я да раніцы, а на світанні паплёўся ў СКР, каб яны са сваёй тэхнікай прыехалі глуміць гэтых каларадскіх жукоў. У канторы — як на кірмашы. Поўна трактарыстаў і сялян, а кожны з іх сваю праўду выводзіць. Такая ж, думаю, стонка, як на маім бульбяніку, адно толькі двухножная, галасістая, нервовая. Нічога я тут не дабʼюся, рашыў я, паглядзеўшы на яснае сонейка, якое стаяла ўжо даволі высока і шчодра грэла свет божы.

Накіраваўся я дамоў, але ля брамы сустрэў свайго пляменніка, Міцьку-трактарыста.

— Чаму ж не, зробім, — кажа ён, — калі... — і вокам на мяне косіцца.

Мне два разы паўтараць не трэба, бо чалавек я кемлівы. Адразу папёр у магазін за бутэлькай спірту, а дома загадаў Палашцы смажыць яешню.

Чакаць давялося вельмі доўга. Яешню з'елі мы самі, і пад вечар толькі прыцмчаўся мой Міцька са сваёй брыгадай. З першага позірку я здагадаўся, што працавалі яны ў вельмі гасцінных гаспадароў, бо адразу прыпалі да кіслага малака, якое мая мілая Палашка на гэты дзень спагадліва для мяне нарыхтавала.

— Міценька, сынок родненькі, — спалохалася мая баба, — і ты гэтай стончынай атруты набраўся!

— А пэўна, цётухна! — зарагатаў ён. — І прапаласкаць яе не зашкодзіла б. Як мяркуеце, дзядзьку Максіме?

Хутка шклянка пайшла з рук у рукі і, калі ўжо пачало цямнець, трактарысты пайшлі на знішчэнне стонкі. Здаецца, больш яны яе калёсамі падушылі, чымсьці гэтай атрутай, бо неўзабаве зноў мой бульбянік зацвіў чырвонымі кветкамі каларадскага насення. Цэлы тыдзень ваяваў я з гэтай стонкай, з СКР-ам і трактарыстамі, аж урэшце плюнуў: чорт са стонкаю і з імі ўсімі, бо раптам іншая бяда завітала ў нашу хату. Пачалі ў нас гінуць яйкі і маладыя курачкі.

— Ліс у куратнік занадзіўся, — рашыла мая Палашка. — Пастаў капкан.

Капкан у мяне захаваўся яшчэ з даваеннага часу. Цяпер такіх не прадукуюць. Як заскочыць, то сам чорт з яго не вырвецца. Прымацаваў я капкан да парога і пайшоў спаць. Толькі заснуў, а тут Палашка будзіць мяне, што ліс-хітрун ужо ў мой капкан папаўся. Прыслухаўся я і вушам не веру:

— Здурэла ты, ці што? — гавару жонцы. — Ад калі ты чула, каб ліс людскім голасам верашчаў?

Схапіў я ліхтарчык і пабег у куратнік, а там... божа мой! Гэты доўгавалосы, што з адной такой бландзінкай доўганогай у мяне над рэчкаю ўжо другі тыдзень праводзіў. Дык гэты доўгавалосы ляжыць на парозе майго куратніка і ўжо ледзь сапе, а правая нага ў

(Працяг на стар. 2)

# ДЗЕ ПАНУЮЦЬ ЖАНЧЫНЫ

(Працяг са стар. 1)

гэтыя мерапрыемствы патрабуюць сродкаў. Асноўная іх частка — гэта дабравольныя складчыны жанчын, рэшту В. Ліпінская здабывае ў ГС-е, СКР-ы і іншых арганізацыях.

— Калісьці наша сяло было вельмі пявучае, — заўважае Анна Клімовіч. — Вясною на вуліцы „на кладках“ вясянкі спявалі, сенакос і жніва таксама ўвесь час з песнямі, нават восенню грэчку рвалі прыпяваючы! А найбольш то мы любілі, калі наш музыка возьме свісцёл ды пойдзем разам за сяло ў гай і там ужо аж да паўночы пяем. Голас жа па расе нясе далёка-далёка...

У сям'і Клімовічаў усе ўжо дарослыя. Дачка Марыя закончыла Культурна-асветную студыю ў Аполі і цяпер працуе настаўніцай у родным сяле, старэйшы сын Грыша служыць у войску, а малодшы Валодзя вучыцца ў Гайнаўскім беларускім ліцэі. Кожнае з іх знайшло сваю жыццёвую дарогу. І Анне Клімовіч пяецца проста ад душы.

Ніна Яўдосюк — вядомая на ўсю Дабраваду ткачыха падвойных дываноў. Тчэ іх за зіму штук дзесяць — дванаццаць. У асноўным сабе. Яны ж з мужам паставілі новы дом. Праз год збіраюцца перайсці ў яго, таму гаспадыні хочацца, каб на тапчанах і сценах закрасавалі ўзорыстыя тканіны ўласнага вырабу. У Яўдосюкаў ладная гаспадарка: трымаюць яны 4 дойныя каровы і дастаўляюць па 400—500 літраў малака ў месяц, у мінулым годзе прадалі 7 кормнікаў, 4 штукі быдла, вясною здалі 12 тон насеннай бульбы. Работы хапае, тым больш што ў сям'і трое малых яшчэ дзяцей. Але і на песню Ніна знаходзіць час.

Антаніна Сідарук таксама — гаспадыня і ткачыха. У мінулым годзе з гаспадаркі Сідаруков пастуліла на пункт скупкі: 2 букаты, 4 кормнікі, кантрактаванае жыта і бульба. Цяпер жа кожны месяц дастаўляецца 700—800 літраў малака. Замілаванне да працы на гаспадарцы перадалося і дачцы Ірэне, якая ў гэтым годзе заканчвае сельскагаспадарчы тэхнікум у Чартаеве.

Таксама дзелавіта праходзіць дзень за днём і ў іншых дабраводскіх самадзейніц. А ім, вясковым гаспадыням, якраз належыць тут найважнейшае слова. І гэта зусім не таму, што ўсюды, у кожнай хаце, як кажуць: мужык — галава, а жонка — шыя, і, вядома, шыя галавою круціць. Проста ў Дабравадзе так ужо жыццё пакіравалася. На пальцах рук можна пералічыць тых маладых і ў сярэднім узросце мужчын, што займаюцца толькі сельскай гаспадаркай. Усе ж, хата ў хату, працуюць на чыгунцы або на розных прадпрыемствах Гайнаўкі. Таксама ўся дабраводская моладзь ездзіць на заняткі ў гайнаўскія сярэднія школы. А калі мужа ці сына ноч пагнала і ноч прыгнала, тады і гаспадарка і сям'я поўнасцю на галаве жонкі або маці. А яны — маладцы: гаспадараць прыпяваючы!..

**І. Снарскі**
Фота аўтара



*— Любілі ж мы калісьці паспяваць, ой, любілі! — усклікае Анна Клімовіч.*



*Ніна Яўдосюк не толькі сама тчэ прыгожыя дываны, але і прывучае да гэтага каштоўнага майстэрства сваю старэйшую дачку Галю.*



*— Хацеўшы, то і на хор знайсці час можна, — заўважае Антаніна Сідарук.*

# НАМ НАД СІЛУ

Па ініцыятыве Таварыства прыяцеляў Супраслі і мейска-гміннага камітэта Фронту адзінства народу ўпершыню прайшлі ў Супраслі Дні Супраслі. Пасля іх заканчэння мы папрасілі начальніка горада і гміны Супрасль **мгр інж. Станіслава Кандрацкага** адказаць нам на пару пытанняў.

— Якая мэта гэтай ініцыятывы?

— У асноўным хацелі мы вызваліць новую энергію нашага грамадства да працы для свайго горада і гміны. Актывізацыя нашага грамадства ўдалася. Выявіліся вялікія магчымасці, якія маюць тутэйшыя людзі, каб яшчэ больш і яшчэ лепш працаваць для сябе і сваіх суседзяў.

— З таго, што было паказана, што найбольш падабалася?

— Выстаўкі, якія паказвалі культурныя дасягненні горада і гміны. Мастацкі ліцэй у Супраслі паказаў свае дасягненні, якія карысталіся вялікім зацікаўленнем, таксама прадпрыемствы і ўстановы горада паказалі на выстаўках, што робяць і што могуць зрабіць. З навуковага падарожжа ў Афрыку вярнуўся жыхар Супраслі інж. Кжыштаф Хайноўскі, які зрабіў выстаўку з гэтага падарожжа. Вельмі цікавыя і павучальныя рэчы!

— А якія трывалыя вартасці застануцца для Супраслі пасля гэтых дзён?

— Ёсць такія. Вось, напрыклад, ВСС у рэкордным тэмпе пабудаваў чатыры гандлёвыя павільёны на турыстычны сезон. Каштавала гэта каля 2 мільёнаў зл. Выраслі ў гарадку, такім чынам, патрэбныя, асабліва ў летнім сезоне, гастранамічныя аб'екты. Таксама была адкрыта прыватная пякарня, дзе пякуцца смачныя супрасльскія булачкі з цыбуляй. Трэба дадаць да гэтага яшчэ вынікі конкурсу „САРП“ у Беластоку на пасёлак „Левітоўка“, які ўзнікне ў Супраслі. Архітэктары выканалі праекты спецыяльна для нашага мястэчка на аднасямейныя домікі. Хачу яшчэ ўспомніць і аб вялікім грамадскім пачыне моладзі мясцовых школ і аб выданні фольдэра аб помніках Супраслі. Дні прайшлі плённа і адкрылі перад намі далейшыя магчымасці дзейнасці.

**(гай)**

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“

**Гарадоцкае свята ◆ Як аўчара з Пашкоўшчыны „набілі ў газавую бутлю“ ◆ Літаратурная старонка ◆ Што чуваць у турысцкай жамчужыне Беласточчыны ◆ Пленум аб жанчынах ◆ Весткі з Бельска, Аўгустова, Нараўкі, Гайнаўкі, Чорнай Беластоцкай, Боўтрыкаў, Супраслі ◆ Песня „Z dalekich wypraw“.**

(Працяг са стар. 1)

## ПРАКЛЯТАЯ СТОНКА

капкане, цэлая закрываўленая. Суседзі насы ў платы ўжо паўтыкалі і глядзяць, што ноччу ў нас на панадворку чаўпецца. Проста бяда. Пагнаў я сваю Палашку да солтыса, каб выклікала хуткую дапамогу, а сам узяўся за вызваленне з капкана майго няпрошанага госця.

Праз гадзіну забралі яго ў бальніцу, а на другі дзень кудысь змылася і белавалосая доўганогая дзяўчына. У нас зноў стала ціха і спакойна.

Але праз два тыдні прыімчаўся да мяне міліцыянер на доследы па справе свядомага пакушэння на жыццё турыстаў пры дапамозе жалезных небяспечных прылад.

Дык і бачыце, мае даражэнькія, ці то вядома беднаму чалавеку, з якой ён стонкай ваюе? На ўсялякі выпадак расставіў я па ўсім сваім полі, на сенажаці і ў лесе такія вось таблiцы: **„Маёмасць прыватная, усялякім турыстам уваход забараняецца!“**

Толькі ці гэта паможа? Стонка ўсюды дабярэцца.

**Максім Нурэцкі**

# ШТО НОВАГА?

## САЦЫЯЛЬНАЯ „МОДА“

У капіталістычных краінах зрабілася модным пахудзенне. Нават ствараюцца спецыяльныя клубы худзеючых. Так, англійскай настаўніцы Марлене Джонсан, якая важыла 96 кілаграмаў, удалося збавіць вагу аж на 40 кіло.

Яна праявіла выключную самаахвярную настойлівасць дзякуючы таму, што любімы муж пагражаў ёй разводам. А вось 19-гадовая еўрапейская прыгажуня княжна Караліна з Манака пакуль што не замужам. Але яна таксама вельмі цярпліва змагаецца з уласнай паўнатой. І ўсё ж, як сведчаць многія буржуазныя газеты, за апошні год яна падрасла на тры сантыметры і прыкметна памажнела. Маці яе мяркуе: гэта здарылася таму, што Караліна ў мінулым годзе дазваляла сабе вольныя паводзіны і вандравала ў асноўным па начных кабарэ. Цяпер маці прызначыла для яе строгі распарадак дня. Кожная гадзіна павінна быць выкарыстана альбо на вучобу, альбо на спорт. Караліна штодзённа займаецца верхавой яздой і плаваннем. Маці таксама ўстанавіла для дачкі строгую дыэту. Напрыклад, на снеданне ёй дазваляецца толькі кофе з лімонам, без цукру, коржык, крышачку масла і мёду.

Бедная княгіня, бедная княжна! Якія турботы ім даводзіцца перажываць! І колькі такіх пакутнікаў сярод багатых у капіталістычным свеце! Але куды больш там „шчасліўцаў“, якіх не турбуюць гэтыя клопаты аб пахудзенні. Толькі ў Заходняй Германіі зараз налічваецца 1.223 тысячы афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных і сярод іх 115 тысяч абяздоленых маладых людзей ва ўзросце да 20 год. Гэтым маладым прыгожым людзям можа пазайздросціць княжна Караліна: яны не схільны да паўнаты, маюць выключныя фігуры без усякіх намаганняў, худзеюць самі па сабе ад пастаяннага недаядання і таго, што заўсёды рады выконваць любую работу.

Галеча для працоўных — даўняя, пастаянная сацыяльная „мода“ капіталістычнага ладу жыцця.

# TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 30.VII.** 9.00 Bajkowy poranek: Ali Baba i czterdziestu zbójców. 10.10 Oblicze bandy — bułg. dramat sens. 15.15 Program dnia. 15.20 Radzimy rolnikom. 15.30 Obiektyw. 15.50 Dziennik. 16.00 5 milionów gatunków. 16.30 Prawda czasu prawda ekranu: Niezłomny — radz. dramat społeczny. 18.15 Studio sport. 19.00 Dobranoc. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Filmy z Marylin Monroe: Słomiany wdowiec — komedia ameryk. 22.15 Dobry wieczór — Tu Łódź. 23.10 Dziennik. 23.25 Kino Nocne: Pyłek kwiatowy — jugosł. dramat społeczny.

**Niedziela — 31.VII.** 7.30 TTR: Pomysły na wagę złota. 7.50 TTR: Więcej pasz własnych dla trzody chlewnej. 8.10 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.35 Studio sport. 8.55 Program dnia. 9.00 Kino TDC. 9.30 Antena. 9.35 Program dnia. 10.50 Dziennik 11.10 Rolnicze rozmowy. 11.40 Bank 440. 12.40 Tylko w niedzielę. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Wieczór z Dziennikiem.

**Poniedziałek — 1.VIII.** 14.25 Program dnia. 14.30 Wakacyjne Kino Młodych. Banda. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Historia w krajobraz wpisana — program oświatowy. 17.00 Teleferie. 18.00 Przygody pana Michała — odc. III serialu TP. 19.00 Dobranoc. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Teatr. TV. R. Frelek, W. T. Kowalski „Przed burzą” cz. V „Dyplomaci i sztabowcy”. 21.35 Camerata. 22.05 Teatr TV. Jerzy Wójcik: Relacje. 23.15 Dziennik.

**Wtorek — 2.VIII.** 14.25 Program dnia. 14.30 Wakacyjne Kino Młodych. Skąpani w ogniu. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio TV Młodych. 17.10 Kółko i krzyżyk — teleturniej. 17.25 Magazyn motoryz. 17.45 Program dla kobiet. 18.15 W Starym Kinie. Ze świata burleski. 18.30 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Powszednie dni doktora Miszkina — odc. III serialu radz. 21.55 Świat i Polska. 22.30 Ludwiku do studia. Spotkanie z L. Benoit. 23.00 Dziennik.

**Środa — 3.VIII.** 15.30 Program dnia. 15.35 Wakacyjne Kino Młodych. Podziemny front. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Kto czyta nie błądzi — magazyn literacki. 17.00 Los. Małego Lotka. 17.15 Kino TDC: Tajemnicza wyspa. 18.10 Gdy zaczynaliśmy — Warszawa. 18.30 Z przyrodą na ty. 19.00 Dobranoc. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Kino Interesujących Filmów. Niespokojne serce — ameryk. dramat psych. 22.10 Studio sport. 22.55 Dziennik.

**Czwartek — 4.VIII.** 14.15 Program dnia. 14.20 Wakacyjne Kino Młodych. Pięciu. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Waga. 17.00 Teleferie. 18.00 Poligon. 18.20 Opowieści reporterów — Szlakiem ballady. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Fale strachu — ang. dramat sens. 22.00 Pegaz. 22.45 Dziennik.

**Piątek — 5.VIII.** 14.35 Program dnia. 14.40 Wakacyjne Kino Młodych. Kalendarz warszawski. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zapraszamy na stadiony. 17.00 Lato z książką. 17.30 Poradnik zmotoryzowanego turysty. 17.40 Rzeka posępna — odc. I serialu radz. 19.00 Dobranoc. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Studio Gama. 23.00 Dziennik. 24.00 Kino Nocne. Diabelska wyspa film fab. — USA.

# ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 29.VII** — 8.30 Film fab. 17.45 Film dok. 19.00 Nasza biografia. 20.30 Piłka nożna (NRD—ZSRR) 22.00 Koncert.

**Sobota 30.VII** — 8.30 Dla dzieci. 12.10 Film fab. 16.25 Film dok. 17.15 Film animowany. 18.35 Film fab. 20.30 Koncert.

**Niedziela 31.VII** — 12.30 Film fab. „Los człowieka”. 15.05 Koncert. 18.00 Piłka nożna („Zaria” — „Torpedo”). 21.20 Sport.

# КІНО

**Białowieża** Moja wojna — moja miłość — pol. 2—3. Sekcja specjalna — fr. 4—5. Niedorajda — pol. 6—7.

**Czyże** Obecność — buł. Zindy chłopiec z bagien — mek. 3—7.

**Dubicze Cerkiewne** Tak szalona, że może zabić — fr. Rudy lis — NRD 3—7.

**Kleszczele** Grubasek — czes. 2—3. Wieśniak na rowerze — buł. — 4—5. Zanim nadejdzie dzień — pol. 6—7.

**Michałowo** Wynajęty człowiek — USA 2—3. Hitler z naszej ulicy — jug. 4—5. Płonący wieżowiec — USA 6—7.

**Mielnik** Lady Caroline Lamb — ang. 3. Sandakan — jap. 6—7.

**Milejczyce** Alfa, Romeo i Julia — węg. 2—5. Karino — pol. 3—7.

**Narew** Mniejszy szuka dużego — pol. Nieposkromieni hajducy — węg. 3—7.

**Narewka** Ocalić miasto — pol. Obrazki z życia — pol. 3—7.

**Nurzec** Żółtodziób — radz. 2—3. Przerwana pieśń — buł. 4—5. Miasto w czerni — węg. 6—7.

**Orla** Dom — jug. Piosenka za koronę — czes. 3—7.

**Rajsk** Niewolnica miłości — radz. Zorro — włos-franc. 3—7.

B.Z.Graf. Zam. 1822 B-4

## З народнай абраднасці. Шкодніцкая магія

### ЗАВЯЗВАННЕ ВУЗЛОЎ

Наношванне рознага тыпу зла і няшчасця за пасрэдствам вузлоў у шкодніцкай магіі — рэч не новая. Сведчаць аб гэтым запісы Пяткевіча, Федароўскага ці фундаментальная праца — ключ да крыніц духоўнага багацця славян, праца К. Машынскага „Народная культура славян“. Наша заданне як мага верна вылаўліваць рэлікты гэтага веравання, паказанне яго насілення і заняпаду і геаграфічнага размяшчэння іх на стыку польскай і беларускай культур.

Магічнае дзеянне, звязанае з вузламі, так як і кожнае магічнае дзеянне, падтрымлівалася славесным тэкстам у форме зласлівага „пажадання“, афарбаванага рытуальным пракляццем. Завязванне вузлоў утрымоўвае вераперакананне, што за пасрэдствам гэтага дзеяння можна шкодніцка ўплыць на чалавечае жыццё, абрываючы яго прадучаснай смерцю, надзяляючы страшнымі хваробамі ці ссылаючы знішчэнне на гаспадарку, што таксама адбівалася на ім.

У вузле, згодна з перакананнем і агульным прынцыпам шкодніцкай магіі, памяшчаецца сіла ўсіх пералічаных пры яго завязванні праклёнаў. А праклёны былі рознага характару, зразумела, найгоршыя, якія толькі прыходзілі ў галаву завязваючаму. Вось, напрыклад, запісаныя ад жанчыны з Нарвы: „Жэб тэбэ покрутіло!“, „Жэб тобіе вуол здох!“ або „Жэб ты замуж далеко вышла!“.

Найчасцей да гэтай формы магічнага дзеяння выкарыстоўвалася збожжа або лён. Зводзілася гэта да заламання (залом) або звязання ў вузел (закрут) верхняй яго часткі, пры гэтым кідаўся праклён. Прыкладна: „Коб ты здох!“, „Коб ты згорыэв!“, „Коб твойе діеті шчастя нэ знали!“, „Коб ты куска хлієба нэ бачыў!“, „Коб ты од дохторуов нэ вылазів!“, „Коб тобіе в пуользу нэ пушло!“ і іншыя (Бельшчына). Выконвалі гэта, зразумела, на полі таго, каму пасылалася няшчасце. У магіі, як вядома, заўсёды існавалі і існуюць дзве супрацьлеглыя сілы: шкодніцкая і дапаможніцкая. Заўсёды на кінуты праклён быў спосаб яго адраблення, што сведчыць аб выразным паралелізме паміж сіламі Дабра і Зла. Да знойдзенага ў полі закрута ці залому адносіліся з вялікім страхам. Зняць з яго злую сілу маглі людзі з чмутарскімі здольнасцямі, якія займаліся гэтым як прафесіяй. У сувязі аднак з паступовым заніканнем гэтай прафесіі людзі пачалі шукаць свайго ўласнага выхаду. Напатканы закрут або залом пакідалі нязжатым або адразу спальвалі, бо агонь у перакананні людзей лічыцца вялікай ачышчаючай сілай. Сёння ўжо вельмі рэдка спатыкаюцца вузлы на збожжы. Затое бытуе шырокараспаўсюджанае выконванне вузлоў на абрусах, дыванах, плахтах ці іншых падобных ім рэчах. Завязваюць іх найчасцей у час вялікіх нагод, напрыклад вяселля, хрысцін. Спатыкаецца таксама падкідванне ў хлеў, у калодзеж, ці на парог вузлоў, зробленых з шнуроў, нітак і ім падобных рэчаў. І людзі перакананы ў тым, што з кожным такім вузлом кінута нейкае вялікае праклящце, якое, каб не здзейснілася, трэба як найхутчэй адрабіць. На падтрымку таго, што яшчэ па сённяшні дзень бытуюць у народзе такія вераперакананні, прывядзем прыклад з ваколіц Заблудова.

Адна сватка (райчыха), раззлаваная надта малым падарункам, вырашыла адпомсціць, завязваючы на пасажным дыване маладухі тры вузлы. І тая доўгія гады не магла нарадзіць дзіцяці. Надарылася аднак аказія, што выпіўшая сватка, хочучы падкрэсліць сваю сілу, прызналася да сваіх чмутарскіх схільнасцей, гаворачы: „Як я зроблю, то всэ попануе, а вона і так дзецяці не ўродзіт і йе мужык покіне“. Знойдзеныя вузлы былі выразаны і спалены, а жанчына, якая здымала праклящце (з ваколіц Кленік), цвярдзіла, што за такую работу магла б кінуць на яе „пэрэклюон“.

Шкодніцкая магія сустракаецца заўсёды з вялікім асуджэннем асяроддзя, але не выходзіць яно за рубяжы ўласнай хаты пад уплывам страху перад магчымасцю помсты. Дае гэта нам яшчэ адзін прыклад на захаванне па сённяшні дзень моцнай веры і страху, які выклікае шкодніцкая магія.

**Янка Леанчук**
**Міхась Шаховіч**




Згодна з шыльдай — клуб селяніна, а ўнутранае абсталяванне пацвярджае гэта. Устаўленыя ў два рады столікі, мяккія крэслы, шафа з кніжкамі, нагадваючая аб існаванні бібліятэчнага пункта, радыё з праігрывацелем, тэлевізар — гавораць аб тым, што гэта, несумненна, клуб. І раней усім жыхарам Сакоў, што ў Бельскай гміне, было гэта ясна. Прыходзілі паглядзець тэлеперадачу, пачытаць свежую прэсу або проста пасядзець. Цвіло культурнае жыццё. Многія навакольныя вёскі яшчэ сёння памятаюць п'есы ў выкананні драмгуртка з Сакоў. Бельскі ГС нават адкрыў у клубе селяніна невялічкі пункт продажу, забяспечваючы яго таварамі першай патрэбы. І людзі былі задаволены. Мелі дзе пагутарыць, выпіць аранжады і купіць сёе-тое, калі крама была закрыта. Потым, калі мясцовая крама перастала існаваць, ГС, каб сяляне не мусілі хадзіць за пакупкамі ў суседнія вёскі, павялічыў колькасць і рознагатунковасць тавараў. Але ці ж гэта можа перашкаджаць дзейнасці клуба? Беручы на цвярозы розум, ці ж продаж тавараў можа тармазіць культурна-асветную дзейнасць клуба і наадварот, ды яшчэ ў Саках, дзе клуб складаецца з двух немалых пакояў? Але апошнім часам пракралася нейкае непаразуменне. Хтосьці напусціў прадавецкую дзейнасць на дзейнасць клуба, у выніку чаго апошняя пачынае занікаць. І людзі самі цяпер не ведаюць — клуб у іх ці крама? Чаму гэта не можа ісці ў пары так, як было раней? Чаму гэта занядбоўваецца? Як зімою сапсаваўся тэлевізар, то ўжо лета праходзіць, а каб адрамантаваць, то ніхто і пальцам не кіўнуў. Што робіць клубовая? Яна ж павінна быць інспіратарам усялякай культурнай дзейнасці і яна за гэта павінна быць адказная. Сцвярджэнне, што ў краме не можа быць тэлевізара, сведчыць аб няведанні працы. Таму яшчэ раз пытаюся, але цяпер у ГС-аўскіх улад, клуб гэта ці крама? Ці не ўдасца пагадзіць гэтага? Раней жа адно другому не перашкаджала. (ша)

### ПІСЬМАНОСЕЦ З ЛАПАТАЙ

Сустрэліся мы ў дзень партыйнага чыну, на дарозе з Гарадзіска ў Плянты, і таму замест звычайнай сумкі разносчыка карэспандэнцыі ў яго руках была лапата. Мікалай Лясота, якому цяпер 50 гадоў, амаль палавіну свайго жыцця правандраваў па дарогах і бездарожжы Нараўкаўскай гміны, дастаўляючы людзям лісты, газеты, пасылкі, павесткі і ўсё іншае — добрае і дрэннае, сумнае і вясёлае — што толькі прыходзіць па пошце.

Кожны тыдзень у яго аб'ёмістай сумцы знаходзіцца таксама 78 экземпляраў „Нівы“. Жадаем яму добрага здароўя, моцных ботаў і павелічэння колькасці падпісчыкаў на „Ніву“. **(вр)**

Фота аўтара

### МОЛАДЗЬ ПРАЦУЕ І АДПАЧЫВАЕ

Дзяўчаты, якія вучацца на медсясцёр і акушэрак у Беластоку, ужо дзесяты раз праводзяць свае сёлетнія канікулы ў лясным гуфцы ў надлясніцтве Жэдня, а дакладна ў леснічоўцы ў Козім Лесе. Будучыя работніцы службы здароўя вельмі палюбілі лес. У лесе працуюць яны пры праполцы і абжынцы пустазелля і іншых раслін на маладых пасадках. Работа ідзе спорна. Амаль кожны дзень зарабляюць яны па 200 злотых кожная. У гэтым годзе закончылі ўжо сваю пабыўку будучыя медсёстры, а зараз да 21 ліпеня працуюць тут будучыя акушэркі.

Час іх пабыўкі не абмяжоўваецца толькі працай. Маюць дзяўчаты час на тое, каб пайсці на рэчку, пачытаць свежую прэсу, звязаць сабе світэр або хустку, заняцца спортам, арганізаваць культурныя мерапрыемствы. На сустрэчы пры кастры яны запрашаюць да сябе людзей цікавых прафесій і мясцовых жыхароў лясных пасёлкаў. Для гасцей выступаюць з мастацкай часткай. Ездзілі нават у маладзёжны лагер у Саколе, дзе далі спектакль з лялькамі. Удзельніцы гуфца могуць кожнага заахвоціць паглядзець сваю багатую хроніку са здымкамі, вельмі цікавыя гербарыі зёлак і розныя лісткі дрэў. (ця)



### У ГАРАДОЦКІХ ЯСЛЯХ

Як ужо „Ніва“ паведамляла, у красавіку бягучага года ў Гарадку былі аддадзены ў карыстанне прыгожыя, светлыя на 80 месц, дзіцячыя яслі. Прабывае ў іх 56 дзяцей работніц мясцовага трыкатажнага прадпрыемства „Каро“ і іншых жыхарак Гарадка. Усе яны знаходзяцца пад добрай апекай.

Тэкст і фота **Янкі Цялушэцкага**




### ШЛЯХАМ ДЗЕЙНАСЦІ БРА

„Да пытання аб гісторыі Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі“* — пад такім загалоўкам была змешчана ў першым за бягучы год сшытку „Пшэглёнду гістарычнага“ публікацыя Аляксандры Бергман.

„Хачу падкрэсліць, — піша аўтар, — што на тэму дзейнасці БРА амаль нічога невядома і вогуле яна не вывучалася. Сённяшняя публікацыя не запоўніць, зразумела, гэтай шчыліны, але паколькі кожная сцяблінка, вырашчаная на гэтай глебе, можа спрыяць шырэйшаму пазнанню цэласці, нарадзілася ў мяне ахвота выказацца на гэту тэму“.

Публікацыя не з'яўляецца падрабязным распрацаваннем дзейнасці БРА, а проста яе агульным вобразам і штуршком да больш дакладнага вывучэння. Каб даць як мага шырэйшы вобраз БРА, аўтар раскрывае яе дзейнасць на фоне храналагічнага нарысу камуністычнага руху ў Заходняй Беларусі. Заадно ўводзіць чытача ў вір тагачасных падзей, знаёмячы яго з арганізацыямі і партыямі і паказвае шлях узнікнення БРА, КПЗБ і іх спалучэнне. І тут аўтар ставіць пытанне: кім былі правадыры БРА, якія ад пачатку 1924 года стануць актыўнымі дзеячамі КПЗБ, і што мы аб іх ведаем? У якасці адказу на пастаўленае пытанне прыводзіць біяграфічныя звесткі і рэвалюцыйны шлях Іосіфа Лагіновіча (Павел Корчык), Леапольда Радзевіча і Арсенія Канчэўскага. Пры нагодзе выплываюць шматлікія прозвішчы актывістаў, якія яшчэ да ўступлення ў БРА лічылі сябе камуністамі, а ў наступныя гады адыгралі вялікую ролю як актыўныя дзеячы КПЗБ. Аналізуючы дзейнасць БРА, аўтар затрымоўваецца на яе прэсе, а дакладна на двух двухтыднёвіках „Наш сцяг“ і „Змаганне“, даючы характарыстыку першага з іх. Наступнае пытанне, якое парушае Аляксандра Бергман ў сваёй публікацыі, гэта: як у свой час кіраўніцтва КПП і КПЗБ ацаніла факт спалучэння з БРА. Прыводзіць цікавыя выказванні розных дзеячоў на гэтую тэму, а, між іншым, С. Міллера і Чашэйка-Сахацкага.

У сувязі з тым, што дзейнасць БРА не вывучалася, нараджаюцца шматлікія праблемы і паўстае рад пытанняў, якія А. Бергман з сваім каментарыем дае пад развагу. Прыкладна: ці БРА была арганізацыяй масавай ці не? І тут прыводзіць тры выказванні на гэтую тэму, якія нараджаюць наступнае пытанне: чаму ў час выбараў у Сейм арганізацыя налічвала дзве тысячы членаў, а потым наступіла зніжэнне да 200—300 асоб. Усе пытанні і праблемы, дадзеныя А. Бергман пад развагу, з'яўляюцца штуршкамі да далейшага даследавання і адкрыцця вернага вобразу Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі.

**Міхась Шаховіч**

* Aleksandra Bergman, Przyczynek do historii Białoruskiej Organizacji Rewolucyjnej w „Przegląd historyczny”, t. LXVIII, 1977, zeszyt 1.

### МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ЭКСПЕРЫМЕНТ

Вельмі папулярны ў Бельгіі веласіпед. Традыцыйна гэтым відам транспарту магутнасцю „ў адну чалавечую сілу“ бельгійцы карыстаюцца для паездак на работу, прагулак за горад. Веласіпед зручны, таму што яго ўладальніку не трэба асабліва турбавацца аб стаянцы, эканоміі бензіну, і, натуральна, аб гарадскіх заторах. Але ў аматараў веласіпеда ёсць свае клопаты. У век „аўтамабіля“ інтэнсіўнасць руху аўтатранспарту пазбаўляе веласіпедыстаў магчымасці без рызыкі ехаць па магістралях гарадоў і прыгарадных раёнаў. Адміністрацыя чыгунак Бельгіі прапанавала наступны выхад. З гэтага часу аматары велапрагулак змогуць выехаць на поездзе ў адзін з 10 правінцыянальных гарадоў, дзе на вакзале можна ўзяць веласіпед на пракат. Як пішуць бельгійскія газеты, лёс гэтага эксперыменту залежыць ад яго рэнтабельнасці.

Беларуская літаратура
Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

**МАКСІМ ГАРЭЦКІ — ЧАСТКА XXXI**

**Сцэнічныя творы.** Адзін са сцэнічных твораў Гарэцкага „Атрута“ быў ужо намі прадстаўлены пры разглядзе зборніка „Рунь“. У дарэвалюцыйны час напісаў аднак Гарэцкі апрача „Атруты“ таксама „Гапона і Любачку“ і „Антона“. Творы гэтыя рашуча адрозніваюцца і сваёй стылістыкай, і тэматыкай, і настроем. „Гапон і Любачка“ — гэта лёгкі сцэнічны жарт, па сутнасці скетч. тады, калі „Антон“ адносіцца да трагедыі.

„Гапон і Любачка“ — гэта твор пра вясковую інтэлігенцыю, да якой адзін з герояў твораў залічае папа, псаломшчыка, настаўніка і манапольшчыка. У цэнтры твора пастаўлены настаўнік Гапон, настаўніца Любачка, поп і яго жонка.

Твор пачынаецца вельмі сур'ёзна. Паказаны тут візіт новага настаўніка мясцоваму папу. Размова паміж духоўным і настаўнікам адбываецца ў атмасферы выключнай сардэчнасці. Поп захваляе мясцовую настаўніцу, не шкадуе пахвальных слоў і ў адрас сваёй жонкі. Створаная ў першай адслоне атмасфера, здавалася б, прадвяшчае ідылічнае сужыццё герояў у будучым.

Зусім у іншым клімаце ўтрымана другая адслона твора. Выступаюць у ёй настаўніца Любка і вядомы ўжо нам настаўнік Гапон. Размова, якая вядзецца паміж імі, у найменшай ступені не нагадвае размовы папа і настаўніка з першай адслоны.

У выказваннях настаўніцы і настаўніка не мала грубых слоў, узаемных абвінавачванняў, нападак, вульгарнасці.

У час размовы Люба, акампануючы сабе на гітары, стараецца некалькі разоў заспяваць нейкія глыбока эмацыянальныя рамансы. Уся сцэна аднак канчаецца не вельмі элегантнай песняй настаўніцы:

*А божа ж мой, божа мой!*
*Чаго я гарую?*
*Запрог сучку ў сані*
*І за хвост кірую...*

Песня гэта з'яўляецца дасканалым рэзюме ўзроўню і характару ўсёй размовы настаўнікаў.

У трэцяй адслоне прымае ўдзел апрача вядомых ужо нам настаўнікаў матушка. Сабраныя забаўляюцца фліртам і размовамі. З прадстаўленай сітуацыі вынікае адназначна, што Гапон абсалютна астыў у пачуццях да настаўніцы і пачынае заляцацца да матушкі. Настаўніца ўсё гэта бачыць і стараецца адпомсціць настаўніку адпаведнымі слоўнымі тырадамі. Вось адно з яе выказванняў, накіраванае ў адрас Гапона: „А я цярпець не магу настаўнікаў з мужыкоў. Хам'ё, шкада, што мужыкоў аслабанілі ад прыгону... Усіх трэба яшчэ розгамі пароць... Цяпер нам, арыстакратам, за імі жыцця не стала“.

Камізм заключаецца ў тым, што „арыстакратка“ Люба з'яўляецца дачкой звычайнага дзячка.

Трэцяя сцэнка заканчваецца сваркай усіх з усімі. Канчаецца ў ёй гарманійнае сужыццё Гапона і Любкі, а таксама Любкі і матушкі.

Трагікамічная развязка твора звязана з чацвертай адслонай. Поп застае Гапона падчас яго купання ў рацэ і, даведаўшыся ад Любы аб яго адносінах да матушкі, пачынае біць настаўніка пугай па голым целе. Такім чынам уся атмасфера ідылічнай дружбы заменьваецца ў руіны.

Трэба падкрэсліць добрую сцэнічнасць „Гапона і Любкі“. У гэтай п'есцы дасканалыя дыялагі, нечаканыя павароты сітуацыі — словам усё тое, што дае сцэнічны эфект. У сваім творы Гарэцкі вельмі ўмела выкарыстаў майстэрства сцэнічных гумарэсак Гогаля і Чэхава. Ёсць у яго п'есе лёгкасць і гіпербалічнасць, якія памагаюць зразумець складанасць чалавечай натуры.

# НА НАРВЕ...

## ПРЫРОДНЫЯ ВАРТАСЦІ ДАЛІНЫ ВЕРХНЯЙ НАРВЫ

Даліна Нарвы ляжыць у макрарэгіёне, які называецца Паўночна-Падляшскай нізінай. Мяркуюць, што пачала яна фармавацца 15—16 тысяч гадоў таму назад.

Як выглядае даліна ракі Нарвы? Тут ёсць шмат адгалінаванняў Нарвы, шырокія паплавы з буйнай воднай і балотнай раслліннасцю. Між гэтай раслліннасцю выступаюць зараснікі вярбы і альшыны. У некаторых месцах, заліваемых вадой, выступаюць вышэйшыя выспы, зарошшыя часта мяшаным лесам.

Такі характар даліны спрыяе не толькі багаццю воднай і балотнай раслліннасці, але дае добрыя ўмовы для бытавання рознай жывёлы.

Раслліннасць у даліне верхняй Нарвы выконвае разнародную ролю: перш за ўсё з'яўляецца біялагічным фільтрам — збірае ў сваіх тканках сплываючыя з вадой забруджваючыя і таксічныя субстанцыі, але апрача таго яна дае магчымасць знаходзіцца тут, рабіць гнёзды і карміцца цэламу раду водных і балотных птушак, паўзуноў, дробных і буйнейшых млекакормячых.

Рэчышча Нарвы з багатай прыбярэжнай воднай раслліннасцю і глыбейшымі месцамі (адпаведнымі для зімавання) стварае добрыя ўмовы для розных відаў рыб. З драпежных рыб тут выступаюць шчупак, акунь і сом, але ёсць тут таксама карп, лешч, плотка, лінь, язь і іншая рыба.

Разнавідная водная раслліннасць стварае адпаведныя ўмовы для размнажэння і кармлення рыб. Некаторыя віды рыб маюць спецыфічныя вымаганні ў адносінах да раслліннасці, на якой складаюць ікру. Напрыклад, плотка складае ікру на мінулагоднім чароце, лінь — у зарасніках асакі, лешч — на мху-„здройку“, шчупак — на лугавых зарасніках, залітых веснавой вадой. Маладыя рыбкі трымаюцца сярод воднай раслліннасці, а найчасцей прычэпліваюцца да яе.

Нарва і яе даліна — гэта адзіны значны водны аб'ект адпачынку для беластоцкай, лапскай, бельскай і гайнаўскай агламерацый. На думку лекараў і іншых спецыялістаў, адпачынак і турызм, пастаянны кантакт з натуральным краявідам гэта неабходная фізіялагічная патрэба чалавека, якая можа рэгенераваць яго фізічныя і псіхічныя сілы. Паводле прагнозаў, хуткі рост запатрабаванняў на адпачынак і турызм прывядзе да дэфіцыту (яшчэ перад 2000 годам) натуральных краявідаў і рэкультывацыі знішчаных абшараў.

Дагэтуляшні спосаб рэгуляцыі ракі і меліярацыі яе даліны ніжэй Тыкаціна прывёў да знішчэння прыродных і адпачынкавых вартасцей. Абшары ў раёне Тыкаціна былі меліяраваны і перасушаны, паўночную частку гэтага абшару зааралі. На месцы балотнай і воднай авіфауны паявіліся зайцы і курапаткі.

Шматбаковыя функцыі выконваюць лугі: гаспадарчыя, грамадскія, эстэтычныя і навуковыя. Паўнатуральныя лугі маюць прыродалячэбнае значэнне, уздзейнічаючы на псіхічны і фізічны стан чалавека. Уплыў іх на здароўе чалавека заключаецца перш за ўсё ў выдзяленні выпарваючыхся субстанцый, а таксама ў павышэнні вільготнасці і ачышчэнні ніжніх слаёў атмасферы ад пылу.

Ёсць яшчэ адзін грамадскі аспект даліны верхняй Нарвы — гэта рыбалоўства. Паколькі тэрыторыя гэта знаходзіцца ў 30—40 км ад Беластока, то з'яўляецца палігонам для 100 тысяч членаў Польскага таварыства рыбаловаў. Меліярацыя, рэгуляцыя і забруджванне на тэрыторыі ад Златарыі да Странковай Гары ператварылі Нарву ў бязрыбную пустыню. Невялікія запасы рыбы засталіся яшчэ на адрэзку вышэй Жоўткаў, дзе ёсць яшчэ ўмовы для размнажэння рыб.

У першыя дні чэрвеня 1977 года ў Беластоку адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная аналізу вынікаў і планаў адносна меліярацыі даліны Нарвы з удзелам прадстаўнікоў навукі і ўстаноў, зацікаўленых у выкарыстанні даліны ракі Нарвы. Калектыў, які апрацоўвае праект меліярацыі даліны, сцвердзіў, што з эканамічнага пункту гледжання меліярацыя ракі ад Суража ўверх не аплочваецца. Гэта дазваляе спадзявацца, што адрэзак гэты застанецца ў такім стане, у якім знаходзіцца ў даны момант.

**Б. Чэчуга**
др біялагічных навук



*Прыгожа і спакойна плыве Нарва за мостам пад Плёскамі.*

## „ПЛЁССО“

Даліна ракі Нараў у наваколлі Плёсак адзначаецца своеасаблівай прыгажосцю. У свабодны час поўна цяпер там адпачываючых. Спрытнейшыя ўстановы па абодвух яе баках пабудавалі ўжо свае базы адпачынку. Рака цягне людзей сваім спакоем, чысцінёй вады і багаццем рыбы. Нават у зімовы час даводзілася тут сустракаць закаранелых рыбаловаў з неадлучнымі вудачкамі.

* ★ *

Гэтае зацікаўленне далінай Нарвы пад Плёскамі заўважыла **Ваяводскае прадпрыемства турыстычных паслуг** у Беластоку і рашыла пабудаваць тут **матэль,** у якім адначасова маглі б пераначаваць 32 асобы, а з'есці абед аж 60 чалавек.

Яго пабудова цягнецца ўжо амаль год часу. Будынак меў быць гатовы на 1 жніўся гэтага года. Аднак інжынер **Рышард Каліцкі,** які кіруе гэтай будовай, сам не верыць у рэальнасць гэтага тэрміну.

— Дай божа, — уздыхнуўшы, гаворыць ён зусім шчыра, — каб мы паспелі да **канца** гэтага года. Няма патрэбных матэрыялаў, няма людзей да працы. Я аб'ездзіў усе навакольныя вёскі ў пошуках звычайных чорнарабочых і, на жаль, ахвотных знайшоў вельмі мала. Асабліва патрэбны нам цесляры, бо ў гэтай будове ёсць для іх многа работы.

* ★ *

Матэль над Нарвай мае называцца **„Плёссо“.** Назва гучыць заманліва, адчуваецца ў ёй нешта экзатычнае, іншаземнае, хаця выводзіцца ад назвы вёскі **Плёскі**, якая раскінулася тут жа за лесам — у 2 кіламетрах.

Праектантам „Плёссо“ з'яўляецца архітэктар **Кшыштаф Хвалібуг.** Праект, безумоўна, цікавы, хаця не знаходзіць ён аніякага апраўдання ў мясцовай традыцыі вясковага будаўніцтва. Гэты своеасаблівы будынак з вострым, высокім, ламаным дахам вырас тут так непрывычна, як грыб-баравік у чыстым полі.

* ★ *

Нейкі мастак (прозвішча яго я не запісаў), спецыяліст па ўнутранаму абсталяванню, калі мы яго падвозілі ў Бельск, гаварыў, што „Плёссо“ будзе выглядаць унутры, быццам казачны церамок. Ён вельмі патрабаваў старой, аб'ёмістай тапалі, каб з яе выразаць запраектаваныя ім скульптуры.

— Такога матэля, — з гордасцю адзначаў ён, — не будзе ва ўсім Беластоцкім ваяводстве. Тут выгодна і прыемна можна будзе правесці свабодны час або наладзіць нейкі банкет.

* ★ *

Напэўна такое турыстычнае прыстанішча над Нарвай вельмі патрэбнае. Толькі яно, бы магніт, сцягне сюды сотні наведвальнікаў. А тады ад спакою прынараўскай даліны астануцца толькі ўспаміны. Што ж, такое жыццё...

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



*Заканчэнне будовы матэля зацягваецца. Госці змогуць завітаць у „Плёссо“ не раней як на Новы год.*

 

# ЯК калісьці бывала...



*На стале красаваўся каравай.*

Яно, спяваючае, танцуючае і жартуючае, сышло з нашых хат, уступаючы дарогу моднай „мястовай“ гасціне, дзе сталы ўгінаюцца пад безліччу тартоў і батарэямі бутылак з гарэлкаю, за сталамі ж развальваюцца надзьмутыя „важныя“ госці ды іх расфуфыраныя жонкі-кадушкі, а побач глушыць усіх дарагі вьючы аркестр і няма... праўдзівага вяселля з яго інтымнай лірыкай і вякамі ўстаноўленым чынам.

Але памяць аб ім усё яшчэ жывая ў народзе. Калі Дом культуры ў Дуброве Беластоцкай папрасіў гурток вясковых гаспадыняў з Няросна прыгадаць колішні вясельны абрад і паставіць яго з нагоды сёлетніх Дзён Дубровы, што праходзілі ад 28 мая па 2 чэрвеня, да пастаноўкі ахвотна прыступіла ўсё сяло. І вось у актавай зале гміннага ўпраўлення, пасля ўручэння некалькім дзесяткам пар залатых і сярэбраных медаляў за згоднае сямейнае сужыццё, разгарнулася ў поўнай красе нярoснаўскае народнае вяселле. Увесь час ліліся песні з вуснаў дружак ды сванек, садзілася маладая на дзяжу, апярэзаны крайкаю ды на ўзорыстым ручніку вандраваў каравай на стол, на гледачоў ды вясельнікаў сыпаліся „гускі“, кланялася маладая „і старэнькаму і маленькаму“, выклікаў маршалак радню да дараў, рыпаў на гармоніку колішні гарманіст ды танцавала ўсё вяселле розныя круцёлкі і страданні. У гледачоў жа на тварах то блукала ўсмешка на ўспамін аб сваім уласным захіленым ужо туманам даўнасці вяселлі, то блішчэла няпрошаная сляза на думку аб той казачна каляровай маладосці, што ўжо ніколі не вернецца...

А праз некалькі хвілін за мястэчкам, у амфітэатры „Лясок“ разгулялася колішняе вяселле ў выкананні моладзі з мясцовых школ пад кіраўніцтвам Барыса Жэшкі з Беластока. Пад вясельныя напевы захадзілі-закружыліся каляровыя карагоды, на праўдзівым возе ў пару коней ад'язджала маладая пара да шлюбу, адпраўляўся з хаты маладой цяжкі сундук з пасагам і рассяпяванымі прыданкамі. І ўсё гэта на вачах некалькіх тысяч чалавек гледачоў, якім надта карціла ўбачыць, як вяселле калісьці гулялі...

І вось яно каляровае, спеўнае і гулліваe, явілася зноў, але ўжо не як абрад, а ў постаці відовішча, хвалюючага відовішча.

**І. Снарскі**
Фота аўтара



*Паглядзець вясельны карагод высыпалі ў „Лясок“ малыя і старыя.*

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

## ХРЫСЦІННАЯ




*Ой, паслала міне маці,*
*ой, паслала міне маці,*
*ой, паслала міне маці*
*да й у поле жыто жаці,*
*ой, паслала міне маці,*
*да й у поле жыто жаці.*
*А я жыта ні жала,*
*а я жыта ні жала,*
*а я жыта ні жала —*
*у баразёнцы лежала,*
*а я жыта ні жала —*
*у баразёнцы лежала.*
*Прышлі жэнцы ў поле жаці,*
*прышлі жэнцы ў поле жаці,*
*прышлі жэнцы ў поле жаці,*
*а я лежу ў баразёнцы,*
*прышлі жэнцы ў поле жаці,*
*а я лежу ў баразёнцы.*

*А я з тае ахвоты,*
*а я з тае ахвоты,*
*а я з тае ахвоты*
*да й нажала штэры снопы,*
*а я з тае ахвоты*
*да й нажала штэры снопы.*
*Штэры снопы нажала,*
*штэры снопы нажала,*
*штэры снопы нажала —*
*палічыці ні знала,*
*штэры снопы нажала —*
*палічыці ні знала.*
*Трэбо хлопцаў прасіці,*
*трэбо хлопцаў прасіці,*
*трэбо хлопцаў прасіці*
*гэты снопы палічыці,*
*трэбо хлопцаў прасіці*
*гэты снопы палічыці.*

Ад Надзеі Баўкун, 1928 года нараджэння, вёска Грабяні гм. Дуброва Беластоцкая, запісаў у лютым 1977 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

# ПАТРЭБНА ТРЭЦЯЯ!

Не так даўно, калі яшчэ ў межах Беластоцкага ваяводства знаходзіліся цяперашнія Ломжынскае і Сувальскае ваяводствы, па ініцыятыве Ваяводскага камітэта партыі рашылі мы змагацца за мільён кароў у 1980 годзе. Раздзяляючы заданні роўна на тры ваяводствы, Беласточчыне з гэтага мільёна прыпала б не цэлых 350 тысяч.

І вось з пастановы Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку (снежань 1976 г.) аб пяцігадовым плане грамадска-гаспадарчага развіцця Беластоцкага ваяводства (у цяперашніх яго межах) да 1980 года вынікае, што **ўжо пад канец 1977 года мае быць у нас звыш 367 тысяч** кароў, яловак, бычкоў-букатаў і цялят, а пяцігодку хочам мы закончыць з лікам у звыш 400 тысяч штук рагатага статку.

Не паганьбуем, вядома, і **паўмільёнам** штук. Такі заманлівы лозунг распаўсюджваюць сярод сялян партыйныя арганізацыі Беластоцкага ваяводства, аб ім даволі часта даводзіцца чуць на розных нарадах і сустрэчах з прадстаўнікамі ўлад.

Што ж, апетыт расце ў час яды. І не галоўнае тут у рэкордах, бо сам рэкорд дзеля толькі рэкорда нікому ў нас не патрэбны. Такія павышаныя заданні і паскораныя тэмпы дыктуе нам цяперашняе жыццё і неабходна з імі спраўляцца. Тым болей, што няма тут нічога немагчымага. Хопіць, каб кожны гаспадар аставіў да далейшай гадоўлі цяля ад адной з дзвюх, напрыклад, вось такіх красуль, якія так спакойна пасуцца (глядзі здымак) ля дарогі ў вёску Збуч (Чыжоўская гміна) — і гэтага ўжо будзе дастаткова для выканання пастаўленага задання. Проста да двух каровак дадаць яшчэ адну.

Хаця не зусім гэта так проста, бо кароўкам патрэбны і хлеў, і корм, і догляд. І таму арганізатары жывёлагадоўлі цяпер заахвочваюць сялян да спецыялізацыі, ствараючы ім вельмі спрыяльныя ўмовы, аб чым мы ўжо не адзін раз пісалі. Нагадваем аб гэтым і цяпер, бо якраз распачаўся сезон інтэнсіўнай нарыхтоўкі кармоў, і варта падумаць, ці не ўдалося б запасціся кармамі так, каб хапіла іх для гэтай **трэцяй** кароўкі.

**В. Р.**
Фота аўтара



(Працяг са стар. 1)

# БЕЛАЯ

бяць тых, хто топча збожжа, а ў рацэ сядзяць патопленікі, якія ўцягваюць неразважлівых пад ваду і там іх топяць. Найгоршым злачынствам лічылася завязаць на збожжы, асабліва на льне „закрут“, які меў усёй сям'і гаспадара палетка прынесці вельмі многа шкоднага. На кірмашы той, хто купляў карову, абавязкова браў ад прадаваўшага вяроўку, на якой жывёла была прыведзена на торг, пры гэтым вельмі пільна сачыў, каб на ёй не было вузлоў, бо тады дабытак „не пашыхуе“. Набываючы парася, стараліся ўзяць разам з ім крыху саломы, якой яно было падаслана, каб „пэрэтягнуті гнездо“. Словам, надта ж прыгнечаны і запалоханы быў колішні чалавек — вельмі многа розных цёмных сілаў усюды падсцерагала яго...

Сёння Белая — гэта тыповая вёсачка на Бельшчыне. У ёй 12 гаспадарак, а іх уладальнікі: **Вышкоўскі, Мацеюк, Наумчук, Пацэвіч, Радзівонюк, Ракоўскі, Сабалеўскі, Шумскі** старанна апрацоўваюць свае палеткі і дбаюць пра жывёлагадоўлю. Праўда, пасля вайны шмат хто з маладых пакінуў сваё роднае сяло і паступіў на работу ў Бельску або ў далейшых гарадах. Аднак гэта не пагоршыла стану тутэйшай гаспадаркі: тут гадуюць шмат малочнага і ўбойнага быдла, свіней, кантрактуюць вельмі многа ільну. І ўсё гэта вядзецца і родзіць ужо без веры ў вузлы на вяроўках і закруты на палетках.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

# 32 гады солтысам

Міхал Фалькоўскі з Грабаўца (Бельская гміна) солтысам працуе ад 1945 года без перапынку. Шмат гадоў ён таксама сакратар партыйнай арганізацыі ў вёсцы, член спулдзельчай рады і кантралёр на пункце скупкі ільну. Яму 67 гадоў, але чалавек і не думае звальняцца са сваіх абавязкаў. Гаспадарку вядзе разам з жонкай.

За грамадскую дзейнасць Міхал Фалькоўскі атрымаў Сярэбраны Крыж Заслугі, знак Тысячагоддзя і бронзавы знак „Заслужаны для Беласточчыны“.

Ён умее жыць з людзьмі і мабілізаваць іх да працы. У вёсцы ўсе дружна пабудавалі святліцу, дзе памясціўся клуб „Рух“, злеўню малака, направілі дарогі, пралажылі 800 м тратуараў, адкрылі краму ГС. Яшчэ ў гэтым годзе пралажаць далейшых 300 м тратуараў, наладзяць масцікі на сваіх дарогах.

**(алг)**

## У ТРАКТАРЫСТА РАБОТА ЧЫСТА

У гміннай спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў, філіяле ў Слойцы, трактарыстам працуе Ян Суровец са Слоі. Ён працуе вельмі добра, сумленна. Так і глядзіць, каб паслугі гаспадару зрабіць як найлепш. Калі яму сказалі, што ён лепш робіць каму, як сабе, ён адказаў: „Сабе як зраблю, так зраблю. А камусьці трэба рабіць дакладна, каб гаспадар быў задаволены і каб людзі не гаманілі на трактарыста“. Каб такіх трактарыстаў больш вадзілася ў нашых эскаэрах!

**Віт**



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Прыемная вестка

Амаль кожны раз заглядаю ў кіёск „Рух" на станцыі ў Чаромсе, дзе ляжыць „Ніва". І з прыемнасцю хачацца сказаць, што „Ніва", бышцам бы прымагнічаўвы перац, расплываецца сярод чытачоў Чаромхаўскай гміны. Ужо на другі дзень (у суботу, значыць,) трэба быць шчасліўцам, каб схапіць наш часопіс.

Як мне сказала прадаўшчыца Яўгенія Алесюк, 65 экземпляраў малавата. А чытачоў „Нівы" ўсё прыбывае. Прыемна пачуць пахвальнае слова аб сваім родным часопісе.

(ус)

## Таварыства сяброў Гайнаўкі

У Гайнаўцы адбыўся з'езд Таварыства сяброў Гайнаўкі. Удзельнікаў з'езду прывітаў I сакратар гарадскога камітэта ПАРП і пажадаў ім плённай працы. Пасля з'езд выслухаў даклад аб развіцці горада. Было выбрана праўленне таварыства — 23 асобы. Старшынёй аднадумна быў выбраны заслужаны дзеяч Фронту адзінства народу, дырэктар Гайнаўскага прадпрыемства драўніннай прамысловасці інж. Аляксей Зін, а намеснікам настаўнік прафесіянальных школ Вітальд Татарчык.

Верым, што таварыства шырока разгорне працу ў галіне папулярызацыі горада сярод насельніцтва і турыстаў і многа добрага зробіць для Гайнаўкі.

Э. Вайсковіч

## СКР-ы

### У БОЦЬКАХ

З кожным годам павышаецца прадукцыя ў СКР, што ў Боцьках. Вядзецца прамысловы адкорм свіней — зараз 2142 штукі на свінафермах у Дубне, і букатаў — 192 штукі ў Малочках. За 1976 год СКР прадаў дзяржаве звыш 150 тон мяса. На палях СКР на 250 га пасеялі збожжа і траву на корм. З пасяўных СКР прадаў дзяржаве ў мінулым годзе 80 тон збожжа, 15 тон ільну, 15 тон лубіну. У гэтым годзе прададуць больш.

### У ЧЫЖАХ

СКР у Чыжах пачаў развіваць гадоўлю. Ад снежня 1976 г. вядзецца тут прамысловы адкорм свіней: у Ляневе — 400 штук, у Збучы — 200 штук. У Збучы ў гэтым годзе пачнецца разбудова тучарні на далейшых 200 штук і гадоўля свінаматак. Гэта паможа перайсці на ўнутраны прадукцыйны цыкл у свінагадоўлі.

Цяпер СКР каапераруе з 55 індывідуальнымі гаспадарамі ў пастаўках верпучкоў. Ужо пачался гадоўля букатаў. Гэтыя напрамкі сельскагаспадарчай прадукцыі будуць у СКР-ы развіваць.

Мікалай Няплоха




### ДОЛЯ

*Доля розная бывае:*
*каго палюбіць,*
*пра каго*
*чамусьці не задбае.*
*Для каго ізмалку ўсміхнецца —*
*прытуліць, прыгалубіць,*
*а над кім —*
*то толькі насмяецца...*
*Адзін нястачаў і не знае,*
*каб толькі жыць...*
*Другому зноў*
*ўсё штосьці замінае,*
*душа баліць.*
*Бывае, доля бокам пранясецца,*
*пацешыць нас,*
*калі яна ізрэдку адгукнецца,*
*прыстане на папас...*
*Такое, відна, доля права мае,*
*што не згадаць,*
*пра нас так часта забывае,*
*каб шчасце даць...*
*Таму сказаць бы паняволі —*
*няраз здаецца,*
*каму не доляй,*
*а нядоляю завецца...*

Валодзя Ш.

## Які будзе лёс банка ў Супраслі?

Спулдзельчы банк у Супраслі быў адкрыты ў 1973 г. Людзі былі гэтым вельмі задаволены. У 1974 годзе пачалася пабудова новага будынка для гэтага банка, бо змяшчаўся ён (і далей змяшчаецца) у малым прыватным памяшканні. Будаўніцтвам заняліся прадпрыемства камунальнай і жыллёвай гаспадаркі ў Супраслі. Тэрмін заканчэння будовы вызначаны быў на канец 1975 года. Зрабілі фундамент, звезлі частково патрэбныя будаўнічыя матэрыялы. У пачатку 1975 года будову ўстрымаў спулдзельчы банк у Беластоку. Дакументацыя аказалася неадпаведнай. Будынак павінен быць большы, і ўдзел у яго пабудове задэклараваў Ваяводскае паштовае ўпраўленне, бо ў тым жа будынку, было вырашана, знойдзе месца і пошта ў Супраслі. І так вось ад таго часу возяцца. Ці банк разам з поштай, ці адзін? А фундаменты памалу пачынаюць нішчыць, выкрушваецца пад уплывам ветру і даджу.

Ці доўга яшчэ будзе прадаўжацца такі кругаварот? Банк мястэчку патрэбны. А яго занядбаны фундамент толькі псуе выгляд ваколіцы. Што на гэта спулдзельчы банк у Беластоку? Калі ў Супраслі закончыцца распачатая будова?

(гай)

## Актыўнасць у Тапарках...

Па ініцыятыве актыўных жыхароў вёскі Тапаркі Кляшчэлеўскай гміны Пятра Патэюка, Мікалая Шыманюка (ён жа і солтыс), Аляксея Цэтры (начальнік пажарнай аховы) і Рыгора Бобіка пачалося будаўніцтва рамізы. Вёска ўжо зрабіла фундамент размерам 8 м на 10 м. Тры дні жыхары прысвяцілі гэтай карыснай грамадскай справе. Таксама прывезлі жвір, цэмент і іншыя патрэбныя матэрыялы.

Дагэтуль кошт грамадскай працы перавысіў 100 тысяч зл. Найбольшую актыўнасць праявіў Пётр Патэюк — старшыня камітэта будовы. Ён нават не пашкадаваў сваіх уласных дошак на шалюнак і, каб не ён, наўрад ці ў гэтым годзе ўвогуле пачалі б будаваць рамізу, якую да зімы цяпер намераны Тапаркі закончыць.

Кляшчэлеўская гміна і яе начальнік горача падтрымліваюць гэты пачын і дапамагаюць тапаркоўскім пажарнікам.

М. Панфілюк

## ...і ў Нараўцы

Экзекутыва ГК ПАРП у Нараўцы ацэньвала рэалізацыю грамадскіх пачынаў за пяць месяцаў г.г. Варта некаторыя пачыны напомніць.

Вучні гмінных школы ў Нараўцы выканалі наступныя працы: 1) прывялі ў парадак мясцовы стадыён, 2) 60 вучняў наводзілі парадкі на вуліцах, 3) 30 вучняў рыхтавалі месца на гарцэрскі лагер у Пляцнe, 4) 60 вучняў працавалі пры пабудове гміннага цэнтра спорту і адпачынку. Агульна ацэньваецца праца вучняў на 9.500 зл.

Лесьнікі працавалі пры будове дарог. 83 асобы выканалі працу на 40.000 зл. Працаўнікі СКР будавалі дарогу да тучарні ў Ляшуках — на суму 250.000 зл. і парадкавалі свае базы — на суму 10.000 зл. 15 асоб з ЦПН 183 гадзіны працавалі ў лесе і разгружалі цыстэрны. Працаўнікі дрэваапрацоўчага завода (18 асоб) ачышчалі сваю пляцоўку. Чыгуначнікі Семянoўкі працавалі на чыгунцы. Іх праца ацэньваецца на 40.000 зл. ГС прапакаваў пляцоўкі каля складаў. У партыйным пачыне прыняло ўдзел 626 асоб, яны разам выпрацавалі 464.570 зл. Агульна за пяць месяцаў у гміне выканана грамадскай працы на суму 1.225.155 зл.

А. З.

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

У белы дзень на чыгуначным пераездзе на вуліцы Гурнай у Гайнаўцы шафёр „Жука" не затрымаўся на знак „стоп" і ўехаў на рэльсы. Тады ж праязджаў пасажырскі поезд Гайнаўка–Бельск. Шафёра, цяжка параненага, звезлі ў бальніцу.

## Сельскагаспадарчае навучанне

Гаспадар ведае, што немагчыма добра гаспадарыць без падрыхтоўкі. Таму ўсё больш сялян канчаюць сельскагаспадарчыя курсы. У Чаромхаўскай гміне трэба падрыхтаваць 537 асоб. Гмінная сельскагаспадарчая служба прадбачвае сканцэнтраванне навучання ў гадах 1977—81.

У паловe красавіка закончыўся першы курс. Быў ён праведзены ў вёсцы Ставішчы і Чаромсе-вёсцы. На ім навучалася 66 асоб, пераважна моладзь і жанчыны. Усе паспяхова закончылі вучобу і здалі дзяржаўны экзамен. Кожны атрымаў атэстат кваліфікаванага гаспадара. Экстэрнам здалі экзамены майстры сельскагаспадарчай прадукцыі: Васіль Астапковіч са станцыі Чаромха і Віталіс Гурык са Ставішчаў.

Сёлета арганізуецца новы курс — у Кузаве і Зубачах. Пачатак у верасні. Навучанне праводзяць працаўнікі гміннай сельскагаспадарчай службы.

Ул. Сідарук

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да артыкула „ДЗЕСЯЦЬ КЛОПАТАЎ ЦІСОЎКІ", „Ніва" № 17/1104 ад 24 красавіка 1977 года.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" W MICHAŁOWIE.**

Informujemy, że poruszone w artykule sprawy są z punktu widzenia społecznego bardzo ważne. Chcąc wyjść im naprzeciw, przeprowadziliśmy rozmowy z mieszkańcami i aktywem wsi Cisówka oraz z kandydatką na sprzedawczynię. W wyniku tych rozmów ustalono, że na terenie w/w wsi była prowadzona działalność handlowa kilka lat temu. Patronat spełniała Gminna Spółdzielnia, a handel był prowadzony przez sklep spożywczo-przemysłowy, którego sprzedawcą był obecny sołtys Ob. Wł. Klimiuk. Handlowano w nim wszystkimi towarami, jakimi w owym czasie dysponowały hurtownie, osiągając obrót rzędu 60 tys. złotych miesięcznie.

Placówka o tak niskich obrotach może być prowadzona tylko na prowizji. W związku z czym płace sprzedawcy mogą się kształtować w wysokości od 1200 zł do 1500 zł miesięcznie. Kandydatka na sprzedawczynię Ob. Klimiuk zgadza się na taki wymiar płac. W związku z tym może dojść do skutku uruchomienie placówki detalicznej w tej wsi. Mimo tego, że Ob. Klimiuk nie ma odpowiedniego przygotowania do tej pracy.

Nasuwa się jednak refleksja, mianowicie: jak długo w/w będzie pracowała w tym sklepie? Jeśli zrezygnuje, wówczas będą poważne kłopoty ze znalezieniem nowego pracownika i placówkę trzeba będzie ponownie zamknąć.

O powyższym poinformowano aktyw wsi Cisówka, Urząd Gminny w Michałowie i Ob. Klimiuk. Niezależnie od tego zwróciliśmy się na piśmie (L. dz. 2612/77 z dnia 13 VI 1977) do osób kompetentnych z prośbą o rozważenie możliwości:

1) przydzielenia placu na zlokalizowanie sklepu bez odpłatności,
2) utwardzenie powierzchni tegoż placu w czynie społecznym,
3) doprowadzenie wody bieżącej i prądu elektrycznego w czynie społecznym,
4) dowiezienie kiosku drewnianego z Szymek do Cisówki własnym transportem i w czynie społecznym (GS nie posiada ciągnika).

Sprawę postawiliśmy w ten sposób, ponieważ przy tak niskich obrotach z punktu widzenia ekonomicznego sklep nie ma racji bytu. Jeśli społeczeństwo wsi Cisówka pragnie posiadać własną placówkę, powinno dołożyć maksimum starań jak i zaangażować się w czynie społecznym w realizację swego zamiaru.

Gminna Spółdzielnia ze swej strony dopilnuje prawidłowego wyposażenia placówki w urządzenia sklepowe i chłodnicze oraz dostarczy niezbędnych materiałów potrzebnych do realizowania czynu społecznego.

Kończąc wyrażamy nadzieję, że przy wspólnym wysiłku społeczeństwa wsi Cisówka i Gminnej Spółdzielni w Michałowie dojdzie do skutku otwarcie nowego sklepu spożywczego w wymienionej wsi. Sklep ten będzie zobowiązany również do prowadzenia skupu jaj.

Zarząd
Gminnnej Spółdzielni
w Michałowie
(podpisy nieczytelne)

**Адказвае: WOJEWÓDZKA SPÓŁDZIELNIA MLECZARSKA W BIAŁYMSTOKU ZAKŁAD MLECZARSKI W BIAŁYMSTOKU.**

Zakład Mleczarski w Białymstoku nawiązując do artykułu z dnia 24.04.1977 r., dotyczącego ogólnego oznaczania zawartości tłuszczu mleka doštarczanego przez dostawców z miejscowości Cisówka informuje, że:

1) mleko dostarczane przez wozaka z Cisówki przyjmowane jest pod względem ilościowym i jakościowym od każdego dostawcy oddzielnie, a pobrane próby wlewane są do buteleczek oraz konserwowane,
2) w końcu każdej połowy miesiąca 1—15 i 16—30 z prób wykonywane są analizy okresowe przez pracownika punktu skupu w obecności czynnika Społecznego Komitetu Dostawców Mleka.

Wyniki analiz wpisywane są do protokołu i stanowią podstawę do naliczenia wynagrodzenia za jednostki tłuszczu.

Jak więc wynika z powyższego — mleko jest oceniane od każdego indywidualnego dostawcy, a nie jak wynika z publikacji — ogólnie. Zakład Mleczarski w Białymstoku nigdy nie prowadził klasyfikacji mleka jak podano w artykule. Jednocześnie informujemy, że przedstawicielem w Komitecie Dostawców przy Punkcie Skupu Mleka w Szymkach ze wsi Cisówka jest Ob. Lasota Stanisław. Analizy jakości mleka wykonywane są w jego obecności. Nadmieniamy jednocześnie, że do chwili obecnej nie było żadnych monitów pod adresem niewłaściwej pracy obecnych pracowników Punktu Skupu Mleka w Szymkach.

Z-ca Dyrektora
A. Skarżyński

**Да фельетона „ЛЕДЗЬ НЕ ВЕНЕЦЫЯ", „Ніва" № 24/1111 ад 12 чэрвеня 1977 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W BIELSKU PODLASKIM.**

W odpowiedzi na felieton pt. „Ledwie nie Wenecja" z 24/1111 numeru tygodnika „Niwa" z dnia 12 czerwca 1977 roku dotyczącego stanu ulicy we wsi Biała, uprzejmie powiadamiam, że krytykowany stan ulicy we wsi Biała jest jednocześnie drogą państwową będącą pod zarządem Rejonu Dróg Publicznych w Bielsku Podlaskim.

Ulica we wsi Biała ma nawierzchnię utwardzoną, posiada pobocze bez rowów odwadniających, co jest powodem gromadzenia się wód powstałych z opadów a w szczególności z topniejącego śniegu w okresie wiosennym.

Zdaniem tutejszego Urzędu w celu umożliwienia szybszemu spływowi wód opadowych, znajdujących się na poboczu ulicy, może być wykonanie przez samych mieszkańców wsi rowku odwadniającego na długości całej ulicy w czynie społecznym w porozumieniu i pod nadzorem Rejonu Dróg Publicznych w Bielsku Podlaskim.

Zgodnie z obowiązującymi przepisami w tej sprawie (art. 39 ust. 3 Ustawy o drogach publicznych z 1962 roku) na drogach istniejących wykonanie rowów odwadniających i zjazdów oraz ich konserwacja należy do obowiązku właścicieli i użytkowników przyległych posesji.

Urząd Gminy odpisem niniejszego wyjaśnienia powiadomi Rejon Dróg Publicznych w celu zainteresowania go sprawą opisaną w felietonie.

Z up. Naczelnika Gminy
Michał Czołomiej
Sekretarz Biura

**Да заметкі „АДНОЙЧЫ Ў ГАЙНАЎЦЫ...", „Ніва" № 17/1104 ад 24 красавіка 1977 года.**

**Адказвае: MIĘDZYWOJEWÓDZKIE ZRZESZENIE PRYWATNEGO HANDLU I USŁUG W BIAŁYMSTOKU.**

W związku z notatką zamieszczoną w Tygodniku Białoruskim „Niwa" — informujemy, że po przeprowadzeniu postępowania wyjaśniającego w tej sprawie nie znaleźliśmy podstaw do ukarania kierowcy taksówki osobowej. Z wyjaśnień kierowcy wynika, iż w tym dniu on nie zarobkował i w związku z tym nie mógł przyjąć a następnie nie wykonać usługi zgłoszonej telefonicznie.

Leonard Szałanda
Viceprezes

**Да публікацыі „БРАКАРОБЫ", „Ніва" № 23/1110 ад 5 чэрвеня 1977 года.**

**Адказвае: URZĄD MIASTA W BIELSKU PODLASKIM.**

W odpowiedzi na artykuł zamieszczony w tygodniku „Niwa" z dnia 5 czerwca br. pt. „Brakoroby" w sprawie przeprowadzonego remontu kapitalnego cmentarza Armii Radzieckiej w Bielsku Podlaskim wyjaśniam co następuje:

Urząd Miejski w Bielsku Podlaskim jako inwestor zlecił w 1975 roku dla Przedsiębiorstwa Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej w Bielsku Podlaskim wykonanie modernizacji cmentarza, przekazując jednocześnie kompletną dokumentację projektowo-kosztorysową.

— Zgodnie z projektem technicznym wszystkie nagrobki na mogiłach uległy przebudowie.

— Bezpośrednią odpowiedzialność nad wykonawstwem jak i jakością użytych materiałów budowlanych ponosiła kierownik budowy i inspektor kontroli technicznej PGKiM.

— Dokonywane były również kontrole przez pracownika Urzędu Miejskiego. O stwierdzonych uchybieniach i niezgodności prowadzonych robót z dokumentacją techniczną informowano bezpośrednio wykonawcę w zapisach dziennika budowy. Występowano na piśmie do Dyrekcji a w sprawach spornych dotyczących kształtu gwiazd i ich osadzenia zwoływano naradę z udziałem przedstawiciela Wojewódzkiego Zjednoczenia Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej w Białymstoku.

Większość robót została poprawiona. W dniu 20 października 1976 roku zwołano komisję ostatecznego odbioru z udziałem przedstawiciela w/w Zjednoczenia.

W czasie dokonywania odbioru stwierdzono kilkanaście usterek i niedoróbek ustalając termin ich usunięcia do 30 kwietnia br.

W miesiącu marcu bieżącego roku stwierdzono, że obrzeża betonowe na mogiłach w 80% uległy rozsypaniu.

W dniu 11 marca br. o niewłaściwym wykonaniu nagrobków powiadomiono Dyrekcję Przedsiębiorstwa Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej ustalając termin usunięcia stwierdzonych nieprawidłowości również w terminie do dnia 30 kwietnia br.

Zgodnie z art. 33 ust. 1 pkt. 1 i 2 Ustawy z dnia 24 października 1974 roku „Prawo Budowlane (Dz. U. nr 38, poz. 229), wykonawca robót budowlanych ponosi całkowitą odpowiedzialność za właściwą ich jakość oraz zgodność z projektem i warunkami technicznymi jakim powinny odpowiadać obiekty budowlane budownictwa powszechnego.

Wadliwie wykonane obrzeża na mogiłach zostały na koszt przedsiębiorstwa przebudowane, wykazane usterki w protokole odbioru z dnia 20 X 1976 roku usunięto za wyjątkiem nieprawidłowego osadzenia gwiazd.

Pismem z dnia 18 maja br.Nr GT. 8113/3/76/77 zawiadomiono Przedsiębiorstwo Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej w Bielsku Podlaskim, aby dokonało osadzenia istniejących gwiazd zgodnie z dokumentacją techniczną.

Z-ca Naczelnika Miasta
Leoncjusz Parafieniuk

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

# Гонар калектыву

— Падайце мне, калі ласка, кнігу скаргаў і прапаноў, — звяртаецца наведвальнік да афіцыянткі.

— Якую кнігу?!

— Кнігу скаргаў і прапаноў, — стрымана паўтарыў кліент.

Афіцыянтка пастаяла, падумала і праз усю залу памчалася да касіркі. Некалькі хвілін яны перашэптваліся, кідаючы спапяляльныя позіркі на наведвальніка. Потым касірка выйшла з-за касавага апарата і падплыла да мужчыны.

— Што вам трэба? — і ў яе голасе чуўся замаскіраваны гнеў.

— Кніга скаргаў і прапаноў, — сказаў ён яшчэ раз.

— А больш вам нічога не трэба? — з'едліва перапытала жанчына.

— Не. — адказаў наведвальнік.

Касірка і афіцыянтка нейкі час разглядалі яго, быццам заморскае дзіва, потым хуценька зніклі ў бакавым памяшканні. Спярша адтуль чуліся жаночыя крыкі, а потым галасны плач.

Здзіўлены кліент заёрзаў на стуле і зірнуў на дзверы, але ў гэты момант з бакоўкі выйшаў цэлы гурт жанчын у белых халатах. Яны ішлі ў наступ, узначаленыя рашучаю асобай гадоў каля сарака. Кліент аж скурчыўся.

— Дык што ж вы хочаце? — гнеўна запытала асоба і ад яе ледзянога голасу наведвальніку зрабілася холадна.

— К-к-нігу скаргаў і прапаноў! — не здаваўся ён.

Уражаныя такой упартасцю, жанчыны прыкусілі языкі. У зале запанавала цішыня. Іншыя наведвальнікі ціхенька, імкнучыся не рыпнуць дзвярыма, пакідалі сталовую.

Здзіўлены цішынёй, з кабінета выглянуў дырэктар.

— Чаго хочаце? — пагодна звярнуўся ён да кліента.

— Кнігу скаргаў і прапаноў! — у адчаі ўсклікнуў мужчына.

— Зараз жа прынясіце чалавеку кнігу, — загадаў дырэктар і, звяртаючыся да мажной асобы, дадаў: — Пазней вы з кнігай зойдзеце ў мой кабінет. Пагаворым...

Позірк дырэктара выпраменьваў бліскавіцы. Мажная асоба меншала на вачах. Праз пяць мінут у дзверы дырэктарскага кабінета пастукалі.

— Заходзьце, заходзьце, — тонам, які нічога добрага не зычыў, запрасіў дырэктар. — Раскажыце, як гэта вы не змаглі абараніць гонар нашага роднага калектыву? А яшчэ мой намеснік...

І ён знямеў, убачыўшы ззянне радасці на яе твары. Мажная жанчына з гордасцю паклала на дырэктарскі стол разгорнутую кнігу. Цераз усю старонку дрыжачай рукою было выведзена: „Дзякую за смачны абед".

**В. Глушчанка**

— А тут будзе ўстаноўлены помнік рыбаку.

# НІЎКА

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Яшчэ юнаком Афандзі неяк пазнаёміўся з дзяўчынай і дамовіўся з ёй спаткацца. І вось стаіць закаханы, чакае, а дзяўчыны ўсё няма. Доўга чакаў. Нарэшце з'явілася яна з вялікім спазненнем.

— Насрэддзінчык, — нясмела прамовіла дзяўчына, — што ж гэта ты няголеным з'явіўся на спатканне?

— Калі б ты прыйшла яшчэ пазней, застала б мяне зусім барадатым! — адказаў ёй Насрэддзін Афандзі.

* ★ *

У Луўры экскурсавод вядзе групу.

— А вось тут была спальня Людовіка Дванаццатага, Людовіка Трынаццатага, Людовіка Чатырнаццатага, Людовіка Пятнаццатага...

Адзін чалавек з групы прыкмячае:

— Як жа цесна яны жылі: столькі чалавек у адным пакоі!

* ★ *

Адзін стакгольмскі хлопец сядае ў аўтобус у малой вёсачцы і пытае:

— Колькі каштуе білет на гэты тарантас?

— Звычайна мы бярэм семдзесят пяць эрэ з кожнага куля аўса, — адказвае шафёр.

## З ГІСТОРЫІ СПОРТУ



Нараджэнне бар'ернага бегу.

## ХВАРОБА З-ЗА ГАРДЭРОБА

*Расою мылася, а не вадою,*
*Не квас, а сырадой піла:*
*Была заўсёды маладою*
*І прыгажуняю была.*

*Часамі нават без прычыны*
*Сама ўсміхалася сабе,*
*Каб не заўважылі мужчыны*
*Маршчынак у яе на лбе.*

*Заўсёды актуальнай тэмай*
*Здзіўляць любіла маладых*
*Пра новыя духі і крэмы,*
*І як дастаць нялёгка іх.*

*Усё вышэй звычайнай нормы*
*Насіла першая яна:*
*Абцасы, міні ці платформы,*
*Ці паўкажушак з барана.*

*Джэрсі, крымплены і шыньёны*
*Хоць з-пад зямлі дастаць магла.*
*Паклоннікаў і палонных*
*Усіх дзякуй яна была.*

*Хвалілася перад суседкай*
*Усім, чаго ў тае няма:*
*Вялізнаю гандлёвай сеткай*
*Сябе аблытала сама.*

*Адным — усмешка з абяцаннем,*
*Другім — цукерак карабок,*
*Хоць пойзаць будзе, а дастане*
*На шаль махеравы клубок.*

*І ходзіць з радаснаю мінай,*
*Парык бліпчыць, як антрацыт.*
*Зірнеш — кабета ці вітрына,*
*Дзе выстаўляюць дэфіцыт.*

*Яна дагэтуль шчыра верыць,*
*(Хоць і сама даўно ў гадах),*
*Што свет стаіць на трох кітах:*
*Дастаць, пашыць і ўсё памераць.*

*Нібы дзіцячая хвароба,*
*Праходзяць лепшыя гады,*
*І толькі ў скрынках гардэроба*
*Яны пакінулі сляды.*

*Усё дагледжана грунтоўна:*
*То моль выводзь, то прасушы,*
*У шафах і ў камодах поўна,*
*І нічагусенькі ў душы.*

**Сяргей Грахоўскі**

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Алі Анішчук з Клейнік змяшчаем песню*

## Tańczy cały świat

słowa: Jadwiga Urbanowicz
muzyka: Teresa Niewiarowska

Na gałązkach, na wierzbowych
zatrzepotał ptak...
Tryl w powietrzu zawibrował
w kujawiaka takt!
Zanucila z ptakiem wierzba,
zawtórował wiatr,
a kujawiak mknie do nieba
i okrąża świat!
Aż spotkali się z trepakiem
na dalekich stepach,
rzewne nutki kujawiaka
rozweselił trepak!
Dalejże po stepach szaleć,
dziarsko przytupywać!
I błyskawic ognie palić
w chmur rozwianych grzywach!
Hej, hej, hej!
Tańczą tańce dwa!
Hej, hej, hej!
A muzyka gra!
Hej, hej, hej!
Tańczy cały step!
Świat się kręci
aż po nieba brzeg!
Wytańczyły nut połowę,
ten pół — i ten pół!
I jak ptaki dwa wędrowne
przyfrunęły tu...
Rozkołysał się kujawiak,
trepak ruszył w tan!...
Jak zabawa, to zabawa,
będą tańczyć nam!...
Ten poważny, ten wesoły —
ale cóż to szkodzi?
Niech zobaczą wszyscy wkoło,
jak się przyjaźń rodzi!
Bo dwa tańce się spotkały
dziś w Zielonej Górze!
Hasać będą przez dzień cały,
albo jeszcze dłużej!
Hej, hej, hej!
Tańczą tańce dwa!
Hej, hej, hej!
A muzyka gra!
Hej, hej, hej!
Niby z bratem-brat!
A wraz z nimi
tańczy cały świat!











— Пара кідаць халасцяцкія прывычкі, мы ж больш года жанаты...

## НЕ ЗАБЫЎ

Прафесар Кузачка вяртаецца дадому і гаворыць жонцы:

— Ты ведаеш, сёння я не забыў свой парасон, я прынёс яго з сабою.

— Але, мой даражэнькі, сёння раніцай ты пайшоў на працу без парасона.

## АБЫ ДАПЯЧЫ

— Сыграйце што-небудзь, — просіць гаспадыня госця-музыканта.

— Калі ласка. Але што?

— Што хочаце, абы суседзям дапячы.



## ДОБРАЯ ДУМКА

— Ведаеш, сват, добрая думка прыйшла мне ў галаву.

— Ну?

— Я вычытаў у газеце, што ёсць нейкая мазь для росту валасоў...

— Ну!

— Куплю і буду мазаць сваю світку. Як вырастуць на ёй валасы, будзе са світкі кажух.

...Ён не любіў крытыкі: ён сам любіў нападаць.

# КУРЁЗЫ

## ФУТБОЛЬНЫ МАРАФОН

У Сіднеі адбыўся не зусім звычайны футбольны матч. Дзве аўстралійскія каманды на працягу 42 гадзін без перапынкаў ганялі мяч. Калі пачуўся свісток арбітра аб заканчэнні гульні, смяротна стомленыя футбалісты тут жа ляглі адпачываць. На табло ў гэты час быў лік 204 : 194. Футбалісты былі задаволены тым, што на цэлую гадзіну пабілі рэкорд працягласці гульні.

## СПАДАБАЛАСЯ

Аднойчы Бетховен слухаў даволі пасрэдную оперу. Калі пасля спектакля кампазітар спытаў, што думае Бетховен аб яго творы, той адказаў:

— Ваша опера настолькі мне спадабалася, што я, напэўна, напішу да яе музыку.

## УСЁ ПАЧЫНАЕЦЦА З ГЛУПСТВА

Цэлыя пяць гадоў некалькі чыноўнікаў міністэрства асветы Мексікі гандлявалі пасведчаннямі аб заканчэнні школы. Больш як тысячу такіх пасведчанняў па сходнай цане ад дзвюх да трох тысяч песа — набылі ў іх бацькі для сваіх някемлівых ці вельмі лянівых нашчадкаў, каб забяспечыць ім паступленне на добрую работу. Невядома, колькі яшчэ працягваўся б гэты махлярскі бізнес, калі б не такі казус: дзве маці, пакрыўджаныя тым, што іх дзяцей, нягледзячы на прад'стаўленыя пасведчанні, не прынялі на работу, паскардзіліся ў паліцыю. А фірма, куды іх хацелі ўладкаваць, матывавала адмову тым, што яны вельмі маладыя, каб закончыць школу.



Каб адчуць сябе Гулівэрам, спачатку трэба патрапіць у краіну ліліпутаў.